*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года
№ 22 (1537) 2 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

## У школах Лідскага раёна і ўсёй Беларусі прайшлі ўрачыстыя лінейкі, прысвечаныя канцу навучальнага года

29 траўня, у школах Лідчыны празвінеў апошні званок.

Па інфармацыі кіравання адукацыі райвыканкама, сёлета ў рэгіёне 11-ты клас заканчваюць 777 вучняў, 9-ты - 1186 хлопцаў і дзяўчат.

Удзел ва ўрачыстых лінейках, прымеркаваных да канца навучальнага года, прынялі чальцы Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта, прадстаўнікі Лідскага раённага выканаўчага камітэта і раённага Савета дэпутатаў.

Намеснік старшыні аблвыканкама Віталь Нявера наведаў гімназію № 1 горада Ліды, а намеснік кіраўніка вобласці Віктар Пранюк - сярэднюю школу № 1 горада Ліды. Прадстаўнікі мясцовай улады звярнуліся да выпускнікоў з прачулымі словамі, пажадаўшы ім добрых адзнак на іспытах і лёгкай уступнай кампаніі.

***

У сярэдняй школе №9 горада Ліды (найбліжэйшай да Лідскага аэрадрома) апошні ў гэтым навучальным годзе званок празвінеў для 752 школьнікаў - менавіта гэтулькі вучняў налічвае на дадзены момант установа агульнай сярэдняй адукацыі. Для 29 адзінаццацікласнікаў урачыстая лінейка падвяла рысу і паставіла кропку ў шматгадовым навучальным марафоне. Прыемна адзначыць, што шасцёра выпускнікоў "дзявятай" прэтэндуюць на атэстат адмысловага ўзору з узнагароджаннем залатым медалём.

Дзявяты клас сёлета заканчвае 76 навучэнцаў. Частка з іх працягне навучанне ў іншых установах адукацыі, аднак большасць застанецца ў сценах СШ №9. Адзначым, што дзесяцікласнікі СШ № 9 будуць паглыблена вывучаць ангельскую і рускую мовы, а таксама матэматыку - прадметы, на якіх арганізаваны профільныя класы.





- 2020/2021 навучальны год стаў паспяховым для нашай школы, - адзначыла ў сваім выступе дырэктар СШ №9 Наталля Грышко. - Сярэдні бал па выніках года склаў 7,83. На "выдатна" скончылі год 63 вучні школы. Пацешылі дзеці і поспехамі ў алімпіядным руху. Заваяваны 41 дыплом - 36 у раёне, 4 у вобласці і 1 у рэспубліцы. Прызёр заключнага этапу рэспубліканскіх прадметных алімпіяд Ягор Сушкоў увайшоў у шасцёрку адораных навучэнцаў Лідчыны і стаў стыпендыятам Гарадзенскага грамадскага аб'яднання "Беларускі дзіцячы фонд".





Малодшая група ўзорнага ансамбля "Вясёлая карусель" (кіраўнік харэограф Вольга Багатка стала пераможцам рэспубліканскага конкурсу дзіцячай творчасці "Дабрыдзень, свет!". У школьнай скарбонцы "дзявятай" шматлікія перамогі ў творчых конкурсах, спартовых мерапрыемствах: усяго заваявана 96 дыпломаў рознага ўзроўню.

Наперадзе ў адзінаццацікласнікаў пара выпускных іспытаў, цэнтралізаванае тэставанне і ўступная кампанія. Ну, а сёння, на лінейцы, прысвечанай канцу навучальнага года, менавіта яны былі ў цэнтры ўвагі. З гонарам глядзелі на выпускнікоў іх класны кіраўнік Тацццяна Бардачова, настаўнікі-прадметнікі, бацькі, вучні малодшых класаў. Задорныя вершы прачыталі для іх тыя, каму выпадзе скончыць школу ў 2031 годзе - цяперашнія першакласнікі. Здаецца, літаральна ўчора яны ўпершыню пераступілі парог школы, аднак за плячамі ўжо год вучобы, які заклаў пачатковую базу ведаў. Увосень дзеці пойдуць у другі клас, а ім на змену прыйдуць вучыцца чытаць і лічыць новыя вучні - цяперашнія дашкаляты.

*Лілея Лапшына, lidanews.*


9 772073 703003


21022

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

**Шаноўныя сябры "Нашага слова"!**

Шмат чаго дзеецца ў нашай краіне. Нягледзячы на цывілізацыйныя катаклізмы, у краіне ідзе культурнае жыццё. Як Берасцейская цвердзь, стаіць кожны раён Заходняй Беларусі. Менш інфармацыі з Усходняй, але ж і там Беларушчына яшчэ не памерла.

Нягледзячы на катаклізмы, арганізацыі ТБМ вядуць змаганне за беларускую мову.

Маленькая арганізацыя ў Дзятлаўскім раёне, але вось выйшаў у іх літаратурны альманах "Ятранка". Ніколі не было, а ў гэты няпросты час выйшаў. І прайшлі ажно тры прэзентацыі.

Невялікая нясвіжская арганізацыя, а ўжо сягае ў сваёй дзейнасці і на Стаўпецкі, і на Капыльскі, і на Клецкі раёны.

18 год прайшло, як быў знесены крыж у Беліцы Лідскага раёна, а леташняй восенню быў адноўлены.

Беларускае грамадства разбэрсалася, як кепскі стог пасля буры, а ў Гарадзенскай вобласці ў 14-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы сёлета прынялі ўдзел над 30 тысяч чалавек у больш, чым 220 населеных пунктаў.

Жыццё ідзе, і пра гэтае жыццё піша газета "Наша слова".

І будзе пісаць.

**"Наша слова" ўключана ў падпісны каталог на другое паўгоддзе 2021 года.**

**Падпісны індэкс: 63865.**

**Інфармацыя пра падпіску знаходзіцца на ст. 52 Каталога падпіскі на 2-е паўгоддзе.**

**Цана падпіскі:**
**на 1 месяц - 2,88 руб.;**
**на 3 месяцы - 8,64 руб.;**
**на 6 месяцаў - 17,28 руб.**

У другім паўгоддзі па патрабаванні "Белпошты" днём выхаду газеты будзе чацвер. Для падпісчыкаў нічога не мяняецца, газета як друкавалася ў аўторак, так і будзе друкавацца ў аўторак.

Ясна, што наступае лета, ясна што павінна быць сезоннае падзенне падпіскі. Але, шаноўнае спадарства, падаць нам няма куды. Наадварот, арганізацыі ТБМ павінны скарыстацца з павышанай актыўнасці хаця б часткі беларускага грамадства і гэтую самую падпіску падняць.

Хто не паспее за месяц дайсці да пошты, каб падпісацца, хто не зможа, заходзьце на сайт *nslowa.by*. Там вы знойдзеце газету ў фармаце *pdf*. Там вы зможаце прачытаць і "спампаваць" большасць матэрыялаў газеты і шмат чаго іншага, цікавага і карыснага. У гэтым паўгоддзі на сайце будзе ўзмоцнена навінная складовая.

Але памятайце, што сайт - гэта дапаможная форма, гэта дадатак да газеты. Можа, калі-небудзь ён стане самастойным СМІ, але сёння гэта - дадатак да папяровай версіі. І зусім верагодна, што калі не стане папяровага "Нашага слова", хутчэй за ўсё не стане і сайта. Карыстайцеся сайтам, калі трэба лёгка спампаваць тэкст, пазычыць каляровую фатаграфію, але перш за ўсё выпісвайце папяровую версію. Яна - у аснове ўсяго.

Шаноўнае спадарства! ТБМ не апусціла рукі і не збіраецца апускаць, і адзін з галоўных кірункаў гэтай дзейнасці выданне "Нашага слова", а таксама "Новага часу", "Верасня", "Лідскага летапісца", "Нясвіжскіх каетаў".

Наша справа - справа барацьбы за беларускую мову - святая. З намі беларуская зямля і беларускае неба!

*Станіслаў Суднік.*

# ПАПАЎНЕННЕ Ў ЛІКУ ГАНАРОВЫХ СЯБРОЎ

27 траўня, калі "мінае ў вечнасць назаўсёды" чарговая вясна, адзначаем дзень нараджэння Уладзіміра Жылкі.

На гэты раз наведаліся ў гарадзейскую зону адпачынку "Ціхая затока", дзе на беразе Ушы старанннямі грамадскасці і пры падтрымцы кіраўніцтва Гарадзейскага цукровага камбіната запачаткавана дуброва "100 дубоў для Жылкі" ды ўстаноўлены памятны камень. Госцяй сустрэчы была ўнучатая пляменніца паэта Маргарыта Рулёва (у дзявоцтве Раманейка). Да апошніх дзён жыцця Наталлі Лазаравай, дачкі паэта, спадарыня Маргарыта трымала з ёю сувязь, мела прыязнае ліставанне, захавала некалькі фотаздымкаў з яе архіва. А падчас сустрэчы распавядала сямейныя гісторыі роду Раманейкаў, давала ўдакладненні пра радавод паэта, цёпла згадвала бабулю, марыла сабраць калі-небудзь разам усіх нашчадкаў Жылкі, якія жывуць шмат дзе па свеце, ды дзякавала грамадскасці за гэтую памятную мясціну.




І як жа без вершаў! Адзін чытаў санет "Меч". Другі - трыялет "Як усё ў жыцці..." Трэці згадваў радкі "Тэстамента". У кожнага быў свой, на густ і разуменне. А вось у чым мелася адзінадушша, дык гэта ў прапанове залічыць Маргарыту Рулёву ў спіс Ганаровых сяброў раённай арганізацыі ТБМ.

***Наталля Плакса,***
*Нясвіж.*

# Памяці Аляксандра Уласава

*"Як старaж стаў смела на варце*
*Радзімых запушчаных гоняў,*
*Стаў сеяць па-свойску ўсё тое,*
*Што мы далей сеем сягоння."*
***Я. Купала.***

У Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча адбылася навуковая краязнаўчая канферэнцыя "Сейбіт праўды і веры", прысвечаная памяці Аляксандра Уласава (1874-1941) - беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, выдаўца і публіцыста. Маладзечанскія бібліятэкары падрыхтавалі і выдалі матэрыялы канферэнцыі асобнай кніжкай, запрашальны білет і праграму падзеі, таму ўсе выступоўцы адразу атрымалі на памяць гэтыя цікавыя як па змесце, так па-мастацкім афармленні, выданні. Асабліва парупіўся даследчык беларускай літаратуры і мастацтва






Міхась Казлоўскі з Маладзечна.

Гэта, найперш дзякуючы яму, ужо 14-ы раз адбываюцца падобныя мерапрыемствы. Яны прысвячаліся Янку Купалу, Генадзю Каханоўскаму, Міколу Ермаловічу і іншым знакамітым беларусам. Удзельнікаў канферэнцыі "Сейбіт праўды і веры" шчыра віталі дырэктар бібліятэкі Марыя Стасяловіч і паэт Віктар Шніп сваёй баладай, прысвечанай Аляксандру Уласаву.

Пісьменнікі, навукоўцы і краязнаўцы Людміла Рублеўская, Андрэй Унучак, Сяргей Чыгрын, Міхась Казлоўскі, Яніна Грыневіч, Павел Каралёў цікава распавядалі пра постаць Аляксандра Уласава, пра яго як чалавека-міфа беларускага адраджэння, пра Уласава і арганізацыйнае станаўленне "Нашай нівы" (1906-1914 гг), пра шведскага місіянера Джона Віта, які быў знаёмы і сябраваў з Аляксандрам Уласавым, пра постаць Уласава ў рарытэтах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і пра іншыя тэмы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Аляксандра Уласава.

Унучатая пляменніца Аляксандра Уласава з Радашковіч Ірына Ніжанкоўская з захапленнем распавядала пра тое, што ёй некалі расказвалі маці і бабуля пра Аляксандра Уласава.

Сапраўды, Аляксандр Уласаў - асоба значная ў гісторыі Беларусі. Ён быў адным з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады, рэдактарам-выдаўцом газет "Наша доля" і "Наша ніва", часопіса "Саха", краязнаўчага часопіса "Лучынка", адным з заснавальнікаў Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны. Яму прысвяціў кнігу "Волат з Мігаўкі" пісьменнік Уладзімір Содаль.

***Падрыхтавала Э. Дзвінская,***
*фота Аксаны Шпак.*

*На кніжных паліцах*

# Моўнае багацце і народныя залацінкі




У 2020 годзе ў выдавецтве "Каўчэг" выйшла новая кніга сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужанага дзеяча культуры Васіля Аляксеевіча Жуковіча "Бязмежжа памяці і любові". У яе ўключаны эсэ, партрэты, роздумы пра настаўнікаў у літаратуры - педагога-прафесара і аўтарытэтнага крытыка, вядомых пісьменнікаў і дзеячаў культуры, з якімі аўтара звязвала доўгае сяброўства, сумесныя жыццёвыя і творчыя шляхі.

Васіль Жуковіч добра вядомы, як прачулы паэт, празаік, эсэіст, журналіст, перакладчык з украінскай, расійскай, польскай і грузінскай моваў, аўтар шматлікіх літаратурна-мастацкіх выданняў. Запомніліся яго зборнікі вершаў "Паклон", "Мелодыя свята", "Цана цішыні", "Золата лістападу" і іншыя, кніга прозы "Арабінавая ноч". Васіль Жуковіч з'яўляецца стваральнікам цудоўных песень і перакладчыкам на беларускую мову твораў замежных аўтараў.

У новым зборніку аўтар праніклёна распавядае аб творчасці і цяжкіх выпрабаваннях славянскіх геніяў - Янкі Купалы, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, неўміручай славе К. Каліноўскага. Закранае загадкай К. Чорнага, расказвае пра ўплыў Багдановіча на школьнікаў, пра адзінокага Я. Коласа, пакінутага С. Новіка - Пяюна, памяткую 95-гадовую А. Васілевіч, стогадовага Барыса Кіта, пра маштабную постаць Анатоля Вярцінскага.

Васіль Жуковіч піша з любоўю і пра тых, каго страціў, - дарагіх сэрцу У. Калесніка, Н. Мацяш, Ф. Янкоўскага, Я. Брыля, Я. Пархуту, Я. Янішчыц, В. Пісьмянкова, В. Куксу, У. Содаля.

Васіль Аляксеевіч вучыўся ў Берасцейскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, дзе яго выкладчыкам быў інтэлектуальна абаяльны педагогпрафесар Уладзімір Андрэевіч Калеснік, які амаль 40 гадоў нёс літаратурную варту на кафедры беларускай літаратуры. Ён магічна ўздзейнічаў на моладзь, з'яўляўся непахісным носьбітам і праваднікам нацыянальнай ідэі. Асветнік-гуманіст абуджаў у студэнтаў пачуццё годнасці, любоў да літаратурна-мастацкай спадчыны Бацькаўшчыны, дэманстраваў сваю грамадзянскую пазіцыю і эстэтычны густ. *"Уладзімір Калеснік,* - піша аўтар,- *нястомна сілкаваў душы людзей, узымаў іх, як сонца ўздымае ўсё жывое, даваў магчымасць адрывацца ад жыцейскіх клопатаў і пераносіцца ў свет духоўнасці, і харства. Ён плённа працаваў у літаратуры, яго творчасць клікала і сёння кліча ў свет мудрасці Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, вольналюбівага Уладзіміра Караткевіча",* - так характэрызуе Васіль Жуковіч свайго настаўніка, выдатнага педагога, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, аўтара глыбокіх літаратуразнаўчых кніг, чалавека маральнай чысціні, які перанёс драму ваеннага ліхалецця, прайшоў суровую школу кулямётчыка, мінёра-падрыўніка, камандзіра звяза і начальніка штаба атрада. Яго духоўная вышыня і чысціня застаюцца арыенцірамі для пісьменніка.

З такой жа павагай піша Васіль Жуковіч пра вучонага-лінгвіста, доктара філалагічных навук, заслужанага дзеча навукі прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, якога ён асабіста добра ведаў. Янкоўскаму даводзілася сустракацца з мноствам людзей і заўсёды ён занатоўваў трапныя і дасціпныя словы, словазлучэнні, прыказкі і прымаўкі, цікавыя гісторыі і зберагаў іх. Сэрцам ён заставаўся верным роднаму слову. Яго адданасць любімай справе, шчыраванне на грунце высокай адукацыі і культуры аказалася магутным рухавіком плённай навукова-творчай дзейнасці. Трыадзінства пісьменніка, вучонага і педагога сталася гарманічным і паспрыяла стварэнню жыццядайнай навуковай і літаратурнай спадчыны.

Пішa ў сваёй новай кнізе Васіль Жуковіч і пра цудадзейны талент Алеся Пісьмянкова, і пра рэалістычна-праўдзівую прозу Генрыха Далідовіча, яго герояў, узятых з роднай вясковай стыхіі, і пра крышталёвую чысціню малюнка пейзажнай лірыкі Фелікса Баторына.

*"Калі б крытыка была маёй стыхіяй, - я паказаў бы ўсю красу і сілу прозы Андрэя Федарэнкі, яго бліскучае майстэрства, кампазіцыйную вытанчанасць, разняволенную раскошу яго мовы, тое, як удала пісьменнік сумяшчае сваё моўнае багацце з народнымі залацінкамі, чысціню літаратурнае мовы з размаітасцю палескага дыялекту, элементамі трасянкі, і тое, які ён памяткі, як ведае класікаў,"* - адзначае аўтар.

З цяплынёй піша аўтар пра шчодрую на гадочкі адораную яскравым талентам, трапяткую, удумлівую, духоўна багатую Алену Васілевіч. Аддае даніну павагі яскраваму, чалавечаму і дэмакратычнаму таленту Ігара Лучанка і іншым асобам, якія рупіліся над захаваннем музычна-спеўнага залатога фонду Беларусі. Кніга напоўнена дабрынёй, цяплынёй і ўдзячнасцю людзям, якіх аўтар сустрэў на сваім жыццёвым шляху. Яна ёсць у продажы ў сталічнай "Акадэмкнізе".



***Э. Дзвінская.***





*Дом Таўлая запрашае*

# Пачалі з *абруса* і *андарака*

У летнім культурна-турыстычным праекце "Замкавы гасцінец", як і раней, задзейнічаны і Дом Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Асноўным мерапрыемствам дома-музея ў рамках "Замкавага гасцінца" сёлета стане музейна-адукацыйная праграма "Музейная вітрына "Прамова прадметаў"" - перайначаная праграма "Літаратурны куфэрак "Любі, браток, родны куток"", якая праводзілася пазамінулым летам. Ідэя "Музейнай вітрыны" належыць куратару Дома Таўлая Алесю Хітруну, адказная за яе правядзенне - наглядальнік літаратурнага музея Ганна Драб.



- Новая музейна-адукацыйная праграма, - расказвае Алесь Хітрун, - з'яўляецца свайго роду рэпетыцыяй перад запланаванай выстаўкай, прысвечанай аднаўчасова беларускаму алфавіту, словам беларускай мовы і прадметам побыту беларусаў - асобным прадметам з музейных фондаў. Кожны экспанат на выстаўцы будзе ўвасабленнем канкрэтнага беларускага слова, якое пачынаецца з той ці іншай літары. Некаторыя з гэтых назваў сёння ўжываюцца рэдка і не вядомыя маладому пакаленню. Наведвальнікі адчуюць прыгажосць роднай мовы і ў той жа час азнаёмяцца з гісторыяй прадметаў. Але гэта ў больш аддаленай перспектыве. А пакуль, на працягу лета, будучую выстаўку мы будзем апрабоўваць два разы ў месяц у двары Дома Таўлая, як бы разбіўшы яе на асобныя міні-выстаўкі, кожная з якіх будзе прысвечана канкрэтнай літары (або адразу дзвюм літарам) беларускага алфавіта. Паглядзім, як ацэняць новы праект наведвальнікі, ці будзе ён запатрабаваны. У выпадку дажджу "вітрыну" будзем пераносіць з двара ў калідор літаратурнага музея, а ўваходныя дзверы адчынім. Музейная вітрына "Прамова прадметаў" будзе дзейнічаць пры любым надвор'і. Вулічныя міні-выстаўкі будуць мець беларускае адценне, будуць знаёміць мінакоў з народным побытам. Праводзіць мы іх будзем праз суботу, з 10 да 13 гадзін.

Першая музейная вітрына "Прамова прадметаў" працавала ў двары Дома Таўлая ў мінулую суботу. Галоўнымі "героямі" міні-выстаўкі былі два прадметы на літару "А" - *абрус* і *андарак* (разнавіднасць спадніцы). Прысутнічалі і экспанаты, назвы якіх пачынаюцца з іншых літар: *бохан хлеба, хлебная лапата, каласы, кляновы ліст*. Аднак усе яны мелі прамое ці ўскоснае дачыненне да абруса і андарака, і аб гэтай сувязі апавядала наведвальнікам адказная за выстаўку Ганна Драб, як і аб гісторыі і прызначэнні кожнага прадмета. Планавалася змясціць на "вітрыне" і альбомы (таксама на літару "А"): сямейны, альбом прадпрыемства. Але ў выпадку дажджу альбомы б намоклі і пашкодзіліся, таму было вырашана абысціся без іх.

Наведвальнікам прапаноўвалася самім вызначыць на выстаўцы прадметы на літару "А" і назваць іх па-беларуску. Не кожны змог адразу, без падказак гэта зрабіць (асабліва вызначыць і назваць андарак). Тыя, каму гэта ўдалося, змаглі бясплатна наведаць экспазіцыю ў самім доме-музеі. Мінакам таксама прапаноўвалася сфатаграфавацца з прадметамі-"героямі" вулічнай міні-выстаўкі.

- Гэты абрус быў перададзены ў фонды нашага музея з Астравецкага раёна, - знаёміць з экспанатамі Ганна Мікалаеўна. - Арнамент на ім называецца "Багач" і сімвалізуе багацце, урадлівасць, таму невыпадкова на выстаўцы прысутнічаюць каласы, хлеб. А вось гэты андарак вытканы з воўны. Прадстаўлены на "вітрыне" і яшчэ адзін абрус - хлебны (на яго клалі хлеб). Пры выпечцы хлеба ў нашай мясцовасці выкарыстоўвалі кляновы ліст (каб хлеб не прыліп да лапаты, а яшчэ ліст надаваў хлебу асаблівы пах).



А яшчэ тыя, хто прыходзіў да музейнай вітрыны, даведваліся, што загорнуты ў абрус гарачы хлеб гаспадыня выкарыстоўвала ў якасці своеасаблівага праса для таго ж андарака. Такая вось сувязь паміж экспанатамі выстаўкі, прысвечанай літары "А".

На наступнай музейнай вітрыне, якая будзе ладзіцца праз суботу, плануецца прадставіць асобныя музычныя інструменты - *барабан, баян* (на літару "Б"), - будуць і іншыя прадметы. А ўвогуле, музейна-адукацыйная праграма "Музейная вітрына "Прамова прадметаў"" будзе дзейнічаць да канца лета. Алфавіт за гэты час будзе прадстаўлены часткова - астатнім літарам, магчыма, будзе ўдзелена ўвага ў наступным сезоне "Музейнай вітрыны" - у рамках "Замкавага гасцінца" ўжо 2022 года.

Аднак не толькі вышэйзгаданай праграмай прыцягне наведвальнікаў Дом Таўлая на "Замкавым гасцінцы". Бліжэйшыя праекты літаратурнага музея на гэтае лета - музычная хвілінка "Гучыць рэтрапласцінка" (5 чэрвеня, адказная - Дыяна Палубінская), "Хроніка падзей Вялікай Айчыннай вайны: агляд калекцыі выстаўкі "Ад плаката да парада"" (12 чэрвеня, адказная - Анастасія Каладзяжная). Кожную нядзелю для дзяцей будзе арганізоўвацца наведванне мемарыяльнага пакоя з своеасаблівай назвай "У Таўлая пабываем…" з гульнямі, забавамі (адказны - Алесь Хітрун).

Словам, гайда ў летнія выхадныя ў Дом Таўлая, не абмініце яго на "Замкавым гасцінцы"! Работнікі дома-музея запэўніваюць: будзе цікава і пазнавальна!

***Аляксей КРУПОВІЧ,***
***г. Ліда.***

## 195 гадоў з дня нараджэння Зыгмунта Серакоўскага



Адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстання 1863 года Зыгмунт Серакоўскі нарадзіўся 30 траўня 1826 года ў в. Лісавое (цяпер Маневіцкі раён, Валынская вобласць, Украіна). Ягоны бацька быў беззямельным шляхціцам, які загінуў у шэрагах паўстанцаў 1830-31 гадоў. З 1845 па 1848 Зыгмунт навучаўся ў Пецярбургскім універсітэце, дзе ўзначальваў таемнае таварыства "Саюз літоўскай моладзі". У 1848 годзе быў западозраны ў тым, што плануе выехаць ў Аўстра-Венгрыю, арыштаваны і адпраўлены шарагоўцам у Арэнбургскі лінейны полк Арэнбурскага асобнага корпуса, дзе пазнаёміўся з Тарасам Шаўчэнкам, Браніславам Залескім і іншымі ссыльнымі. У сакавіку 1856 года быў узведзены ў чын прапаршчыка і пераведзены ў 7-мы батальён Берасцейскага пяхотнага палка. Вярнуўшыся ў Пецярбург, паступіў ў Акадэмію Генштаба, якую паспяхова скончыў (1859 год) у чыне капітана.

У 1863 годзе пасля пачатку Студзеньскага паўстання ў Варшаве Серакоўскі атрымаў 2-х тыднёвы адпачынак на службе дзеля выезду за мяжу. Выехаў у Літву, дзе стаў адным з лідараў паўстанцаў. Абвясціў сябе генералам Літоўскім і Ковенскім пад імем Даленга. За кароткі тэрмін Серакоўскі сабраў паўстанцкі аддзел колькасцю 5 тысяч чалавек. Ягоны аддзел 23-24 красавіка быў разбіты расейскімі карнымі войскамі, але частка аддзела ацалела і працягнула змаганне. У наступнай бітве ля мястэчка Біржы яны былі канчаткова разбітыя. Сам Зыгмунт Серакоўскі быў паранены ў грудзі навылет, патрапіў у палон. Перад ваенна-палявым судом прамаўляць адмовіўся, патрабуючы суду галоснага ды прысяжнага. Судовы вырак быў: павешанне. Прысуд выкананы ў Вільні на Лукішскім пляцы, дзе крыху пазней павесілі і Кастуся Каліноўскага.

Зыгмунт быў жанаты з Апалоніяй Далеўскай з Лідскага павета (1841-пасля 1915), сястрою Цітуса Далеўскага, якую пасля паўстання 1863-64 гадоў выслалі ў Ноўгарад. З 1867 года жыла ў Варшаве. Пакінула ўспаміны пра паўстанне.

22 лістапада 2019 года ў Вільні з удзелам урадавай дэлегацыі Беларусі перапахаваны ў капліцы на могілках Росы.

***Беларускае Радыё Рацыя.***

## З ДУМАЙ ПРА БЕЛАРУСЬ

"Ад прадзедаў спакон вякоў" - назва выставы скульптараў Льва і Сяргея Гумілеўскіх, што дзейнічае ў Дзяржаўным нацыянальным музеі Янкі Купалы да 16 чэрвеня. Іх творчасць трэба называць (не будзе перабольшаннем!) скульптурным летапісам беларускай літаратуры і гісторыі. Больш за тры дзясяткі работ, трэць з якіх новыя ці тыя, што дагэтуль не экспанаваліся.

Купала і Колас, Каліноўскі і Міцкевіч, Дунін-Марцінкевіч і Манюшка, Караткевіч, Геніюш, Гілевіч… сышліся тут нібыта на







Вялікую Раду.

Наведайцеся ў музей песняра. Чалавек са шчырай беларускай душой падмацуецца сугучнасцю сваіх думак з думкамі аўтараў і герояў.

***Наш кар.***

# Святло любові і радасці, святло праваслаўя на Лідскай зямлі

У дні святкавання славянскай пісьменнасці навучэнцы і педагогі Дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды" прынялі ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага конкурсу творчых работ "Свята праваслаўя", якая прайшла ў Менску. Арганізатарамі конкурсу ўжо не першы год выступае ДУА " Інстытут тэалогіі імя Святых Мяфодзія і Кірыла БДУ".








На конкурс былі прадстаўлены тры даследчыя і адна літаратурная праца.

У намінацыі "Подзвіг жанчыны ў гісторыі маёй малой радзімы" была прадстаўлена праца "Лідскі край стаў для яе малой радзімай, і яму яна прысвяціла ўсю сябе. Анастасія Аляксандраўна Каладяжная". Аўтары працы - Ксенія Краснадубская, Арсеній Раманцаў, навучэнцы 8 Б класа. У намінацыі "Мой храм пад мірным небам Беларусі" прадстаўлена праца "Кафедральны сабор Святога Архістратыга Міхаіла горада Ліда: гісторыя і сучаснасць". Аўтары - Ганна Юнда, Алена Лычкоўская, навучэнцы 8 Б класа. Кіраўнік абедзвюх даследчых работ - Наталля Мікалаеўна Анашкевіч.

У намінацыі "З малітвай за Беларусь" - праца" Ціхія словы малітвы" (разважанні аб духоўнай паэзіі Дануты Бічэль). Аўтар - Астаніна Ксенія, навучэнка 11 класа. Кіраўнік - Святлана Леанідаўна Бяляўская.

Літаратурная работа "З малітвай за Беларусь" (духоўныя разважанні беларускіх паэтаў Я. Купалы, Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, Зьніча, Г. Серэхан) была падрыхтавана навучэнкай 10 класа Настассяй Яцкевіч. Кіраўнік - Алена Іосіфаўна Агурцова.

Самым прыемным момантам стала тое, што ўсе чатыры работы навучэнцаў і педагогаў адзінаццатай школы былі ўганараваны дыпломамі I ступені. Высокія ўзнагароды і невялікія падарункі пераможцы атрымалі з рук першага прарэктара Інстытута тэалогіі БДУ протаіерэя Сергія Гардуна. Педагогі, якія падрыхтавалі пераможцаў конкурсу, былі ўзнагароджаны падзячнымі лістамі і кнігамі духоўнага зместу.

Яшчэ адным яркім уражаннем і падарункам для пераможцаў конкурсу ў гэты дзень стала экскурсія ў музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, дзе навучэнцы і педагогі змаглі бліжэй пазнаёміцца з тымі далёкімі падзеямі, пра якія памятаюць сёння і з гонарам захоўваюць у памяці ўсе беларусы.

Натхнёныя, з зарадам станоўчых эмоцый, школьнікі вярнуліся ў родны горад, захапіўшы з сабой свята любові і радасці, свята праваслаўя.

***Наталля Анашкевіч,***
*класны кіраўнік 8 Б класа*
*СШ №11 г. Ліды.*

***Алесь Крой***

# Геаграфія знакавых месцаў памяці пра Я. Карскага і яго родных

## Да 160-годдзя з дня народзінаў і 90-годдзя з дня смерці (1.01.1861 - 29.04.1931)

*(Заканчэнне. Пач. у папяр. нумарах.)*

Заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун быў адным з першых даследчыкаў-папулярызатараў акадэміка Я. Карскага, бо ён яго зямляк, з Кунцаўшчыны-Лашы. У 90-я гады мы даведаліся і пра забароненых замежных даследчыкаў, папулярызатараў і крытыкаў працаў акадэміка В.Тумаша і іншых, якія мелі свой пункт гледжання, свае архівы і доступ за мяжой да знішчанай у Беларусі ў 30-я гады беларускай літаратуры і вывезеных архіўных дакументаў. Пасля напісання гарадзенскімі краязнаўцамі-даследчыкамі і гісторыкамі новых звестак па біяграфіі акадэміка (а колькі яшчэ недаследаванага?), шматгадовых даследаванняў праўнука А. Карскага з Санкт-Пецярбурга, менскіх даследчыкаў, мы можам рабіць нейкія высновы з узважаных беларускіх пазіцый, паміж "Масквой і Варшавай" праз свае "беларускія акуляры". Дваццаць гадоў назад вядомы літаратуразнавец Язэп Янушкевіч, аўтар прадмовы, разам з Кастусём Цвіркам, да кнігазбораўскага выдання "Беларусаў" Я. Карскага (2001), пісаў, што нельга адназначна ацэньваць постаць навукоўца: *"Чалавек неадрыўны ад свайго часу. Час тады быў імперскі. Пра існаванне нейкае там Беларусі не было і размовы. Працы Я. Карскага прывялі іншых да высноваў, да якіх навуковец можа і не хацеў падводзіць, ён не хацеў сказаць, што мы самастойныя і самабытныя, але сабраны ім матэрыял крыкам крычаў пра нашую самабытнасць, нашую даўнюю гісторыю".*



***Фота 20. Фота Я. Карскага. 1926. З кнігі А. Карскага***

Імя Я.Ф. Карскага носяць вуліцы ў Гародні, Навагрудку і Менску, у Гародні - завулак, абласная навуковая бібліятэка. Музей Я.Ф. Карскага дзейнічае ў гімназіі №1, якая таксама носіць імя акадэміка Я.Ф. Карскага (г. Гародня), музейная экспазіцыя, прысвечаная Я.Ф. Карскаму, ёсць у музеі СПК імя Дзеншчыкова (в. Луцкаўляны, Гарадзенскі раён). Памятная дошка Я.Ф. Карскаму ўсталявана на будынку былой Лашанскай базавай школы (в. Лаша, Гарадзенскі раён). У ГрДУ з 1990 года адбываюцца Карскія чытанні. У 2018 годзе каля в. Мігова ў с/т "Мігова" створаны артаб'ект на аўтобусным прыпынку з картай турмаршрута "Шляхамі акадэміка Я. Карскага". У Мігове ў 2019 г. пастаўлены на каменным п'едэстале памятны валун з шыльдай Я. Карскаму. У Нежыне (Украіна), дзе Я. Карскі вучыўся ў інстытуце, усталявана памятная шыльда Я. Карскаму. У Варшаве, у Польшчы, дзе ён шмат гадоў працаваў, у вёсках Беларусі, дзе яму разам з роднымі даводзілася жыць, магчыма, з'явяцца новыя ініцыятывы па ўшанаванні памяці акадэміка. Шмат беларусаў мараць таксама, каб галоўная вышэйшая дзяржаўная ўстанова Беларусі - БДУ насіла імя першага беларускага акадэміка Яўхіма Карскага! Навагрудская арганізацыя ТБМ на паседжанні Гарадзенскай рады ТБМ праявіла ініцыятыву і агучыла свой праект памяці пра Я. Карскага на Навагрудчыне. Чаго ў гэтым спісе памяці не хапае?

ПОМНІКА! Яго пакуль няма нідзе ў Беларусі! Дзе варта было б паставіць? Тут думкі могуць быць розныя, але кожны мае і сваю. Магчымая геаграфія для ўсталявання помніка вялікая: У 2021 годзе юбілей-100 гадоў БДУ! У Менску ў дворыку БДУ сярод помнікаў беларускіх асветнікаў, каля Акадэміі навук у Менску, каля будынка былога Інбелкульта ў Менску, дзе не ўзгадваецца на шыльдзе яго імя, у Гародні - каля новага будынка бібліятэкі імя Я.Карскага, якую, на вялікі жаль, (зноў перавезлі) з Каралеўскага замка на вуліцу Карбышава… Лаша, як месца нараджэння акадэміка, але сёння яна з'яўляецца неперспектыўнай вёскай, нават не аграгарадок, тут важна паставіць памятны валун з шыльдаю, дзе быў дом Карскіх, бо невядома колькі праіснуе інтэрнат (былая школа) у Лашы, дзе пакуль яшчэ вісіць памятная дошка Я. Карскаму.



***Фота 21. Гародня. Будынак банка, дзе ў 2020 годзе далі прытулак бібліятэцы імя Я. Карскага***

# На Астравеччыне ўшанавалі памяць Казіміра Сваяка

22 траўня ў вёсцы Барані Астравецкага раёна адбылася ўрачыстасць з нагоды ўшанавання памяці вялікага сына Астравеччыны - беларускага каталіцкага святара Кастуся Стаповіча, які зрабіў вялікі ўнёсак у нацыянальную культуру як паэт, драматург, публіцыст, літаратуразнавец і грамадска-палітычны дзеяч, пішучы пад псеўданімам Казімір Сваяк.

На панадворку хаты, у якой нарадзіўся святар-паэт, адбылася цэлебрацыя ўрачыстай святой Імшы з удзелам ксяндза Казіміра Ляховіча з Быстрыцы, ксяндза Аляксандра Барана з Лынтупаў, ксяндза Яцка Гутмана з Камаяў, ксяндза Віктара Захарэўскага з Варнян, ксяндза Анатоля Захарэўскага з Міхалішак, а таксама айца Юрыя Находкі OCD з Гудагая.

*Слухалі тут белыя бярозкі*
*І пачуў нарэшце белы свет,*
*Як з чароўнай Музай-беларускай*
*Шчыра размаўляў святар-паэт.*
*Моў прыгожых ёсць на свеце многа,*
*Ды найпрыгажэйшая - свая.*
*Як на беларускай мове з Богам*
*Годна размаўляў святар Сваяк.*

Несумненна, колішні клюшчанскі пробашч (чатыры гады таму, у чэрвені 2017 года, драўляны касцёл у Клюшчанах згарэў пры невядомых абставінах), які некалі ў сваёй парафіі арганізаваў цудоўны хор (у ім ён сам іграў на скрыпцы і спяваў), цешыцца ў небе.

Гэта вялікая ласка Найвышэйшага, калі тваё жыццё і надалей з'яўляецца прыкладам для нашчадкаў: як трэба прайсці па зямлі, каб пакінуць пасля сабе памяць ва ўдзячных сэрцах наступнікаў.




Пасля набажэнства была зладжана літаратурна-мастацкая кампазіцыя, у якой прагучалі творы святара-паэта, а таксама вершы і песні яго землякоў з Астравеччыны.

На пачатку настаўніца з Камаяў **Генуэфа Дубіловіч** прачытала свой верш "Сэрца Святара", які прагучаў як падарунак для ўсіх прысутных святароў. Затым спадарыня Генуэфа зрабіла агляд сустрэч, якія ладзіліся ў гонар Казіміра Сваяка ў Камаях, Клюшчанах і Баранях пачынаючы ад 2006 года. Выступоўца пажадала, каб гэтыя сустрэчы, якія нясуць духоўнае ўзбагачэнне, ладзіліся і надалей.

**Людміла Кухарэвіч** з Варнян прачытала сумны верш Сваяка пра адчуванне ягонай смерці, а пасля праспявала песню на ўласны верш "Святая Марыя", які напісала ў гонар святара-паэта і прысвяціла Маёвым набажэнствам. Людміла Іванаўна па даручэнні мастачкі **Тарэсы Варановіч** з Дайлідак, якая не змагла прысутнічаць на свяце, уручыла ў падарунак пробашчу Клюшчанскай парафіі ксяндзу Анатолю Захарэўскаму карціну з выявай Казіміра Сваяка на фоне клюшчанскага касцёла.

Супрацоўніца астравецкай газеты **Алена Гануліч** уручыла ганаровыя дыпломы Іяланце Валуевіч і Зофіі Шапель - пераможцам конкурсу, прымеркаванага да 130-годдзя з дня нараджэння Казіміра Сваяка, вынікі якога былі падведзены ў канцы мінулага года.

Камертонам амаль ва ўсіх выступленнях гучалі згадкі пра верш у гонар Казіміра Сваяка аўтарства яшчэ аднаго знакамітага земляка - Станіслава Валодзькі (нарадзіўся ў 1956 г. у вёсцы Падольцы).

А потым у бяседзе-застоллі гучалі песні, у адной з якіх былі такія словы:

*Вёсачка Барані - за барамі -*
*Мілая радзімка Сваяка,*
*Дзе ўзяла пачатак свой уранні*
*Слынная жыцця яго рака.*

Кароткае, але яркае жыццё самаахвярнага святара (1890, вёска Барані - 1926, Вільня) гэтаму доказ.

Завадатарамі-вядоўцамі літаратурна-мастацкай кампазіцыі былі землякі святара-паэта Іяланта Валуевіч ды Алесь Юркойць.

Мастак-ілюстратар Галіна Хінка-Янушкевіч падаравала прысутным дзеткам з Камаяў (у тамтэйшы касцёл атрымаў сваё першае прызначэнне вікарыем маладзенькі ксёндз Кастусь Стаповіч) свае апошнія выданні - вершы ксяндза А. Твардоўскага (у перакладзе паэткі з Гародні Дануты Бічэль) і зборнік Мар'яна Дуксы (1943-2019; паэт нарадзіўся на Мядзельшчыне, аднак большую частку жыцця пражыў у Солах ля Смаргоні). Абодва выданні выйшлі нядаўна ў беларускім каталіцкім выдавецтве.




Гэтая сустрэча была ўжо 15-й па ліку. І будзе мець працяг у будучым, пакуль жыве ў нашай краіне і на Астравецкай радзіме памяць пра святара Кастуся Стаповіча і адначасова выключнага нацыянальнага паэта Казіміра Сваяка.

***Казімір Карловіч,***
*Catholic.by.*

***Навіны Германіі***

# Нямецкая зброя для Кіева? Амбасадар Украіны "за", урад ФРГ "супраць"

Нечаканая прапанова сустаршыні партыі "зялёных" пачаць экспарт зброі з ФРГ ва Украіну сустрэла ў Германіі пераважна негатыўную рэакцыю. Але ёсць і прыхільнікі такога падыходу.

Амбасадар Украіны ў Германіі Андрэй Мельнік быў адным з вельмі нямногіх берлінскіх ньюсмейкераў, якія станоўча паставіліся да нечаканай прапановы Роберта Хабека (Robert Habeck) пачаць пастаўкі нямецкіх абарончых узбраенняў для ўкраінскага войска. Такую ідэю сустаршыня партыі "Звяз-90"/"зялёныя" дапусціў у інтэрв'ю радыёстанцыі Deutschlandfunk у аўторак, 25 траўня, падчас наведвання перадавой лініі на ўсходзе Украіны.

- Украіне, па маім меркаванні, цяжка адмовіць у зброі для абароны, для самаабароны, у абарончых узбраеннях, - заявіў тады Хабек, які ледзь не стаў на хуткіх у Германіі ўвосень выбарах кандыдатам "зялёных" у канцлеры. Праз дзень ён удакладніў, што пад абарончымі ўзбраеннямі меў на ўвазе, у прыватнасці, прыборы начнога бачання, выведвальную тэхніку, сродкі для размініравання і транспарт для эвакуацыі параненых. Але сутнасці справы гэта не змяніла. Зброя ёсць зброя, і амаль усю яе можна ўжыць як у абарончых, так і ў наступальных мэтах. Палітычны Берлін адрэагаваў на прапанову аднаго з двух "зялёных" лідараў пераважна негатыўна.

- Расія выкарыстоўвала б пастаўкі зброі Украіне ў якасці нагоды для нарошчвання сваіх войскаў у Крыме, на ўсходзе Украіны, а таксама ўздоўж расійска-ўкраінскай мяжы, - заявіў знешнепалітычны эксперт парламенцкай фракцыі кіравальнага ў Германіі блока ХДС/ХСС Юрген Хардт (Jurgen Hardt). Не ў інтарэсах нямецкага ўрада, растлумачыў ён, падаграваць канфлікт у Данбасе.

Такі пункт гледжання падзяляе і Рольф Мютценіх (Rolf Mutzenich), старшыня фракцыі сацыял-дэмакратаў - партнёраў кансерватараў па кіравальнай кааліцыі.

- Патрабаванне паставіць Украіне так званыя абарончыя ўзбраенні легкадумнае і паказвае ў чарговы раз, наколькі няшчырыя "зялёныя" і наколькі мала яны здольныя кіраваць краінай, - заявіў ён, відавочна намякаючы на апошнія апытанні, якія абяцаюць гэтай партыі адносную большасць на хутках (у верасні) выбарах, а з ім - шанец узначаліць наступны ўрад Германіі.

- Зброя - апошняе, у чым мае патрэбу гэты рэгіён, яна здольная толькі падліць масла ў канфлікт, а не разрадзіць яго, - упэўнены і лідар фракцыі посткамуністычнай Левай партыі Дытмар Барч (Dietmar Bartsch). Характэрна, што не толькі палітычныя апаненты, але і некаторыя аднапартыйцы Роберта Хабека, які карыстаецца ў асяроддзі "зялёных" беспярэчным аўтарытэтам, паставіліся да яго прапановы негатыўна.

Так, "зялёны" "патрыярх", якім быў старшыня партыі Юрген Трытын (Jurgen Trittin) выказаўся супраць яго прапановы:

- Пастаўкі зброі ва Украіну сталі б парушэннем нашага асноватворнага прынцыпу, паводле якога мы не экспартуем узбраенні ў рэгіёны баявых дзеянняў.

Пацыфізм - адна з асноватворных догмаў нямецкіх "зялёных", яны традыцыйна выступаюць супраць экспарту ўзбраенняў. Вось і ў праекце сваёй перадвыбарнай праграмы яны патрабуюць *"шляхам строгага кантролю за экспартам спыніць пастаўкам узбраенняў у крызісныя рэгіёны і рэгіёны, ахопленыя войнамі"*. Украіна - ці, прынамсі, яе ўсход - несумнеўна адзін з такіх рэгіёнаў. Па ацэнках ААН, канфлікт у Данбасе ўжо забраў жыцці больш, чым 13 тысяч чалавек.

Можна нагадаць, што ініцыятарам абмежавання нямецкага экспарту ўзбраенняў у свой час выступіў урад сацыял-дэмакратычнага канцлера Герхарда Шродара (Gerhard Schroder), намеснікам якога і міністрам замежных спраў быў "зялёны" Ёшка Фішар (Joschka Fischer). З тых часоў у Германіі дзейнічае забарона на экспарт узбраенняў у краіны, *"якія ўмешаны ва ўзброеныя сутыкненні ці, калі такія ім пагражаюць"*.



І зменяць такую практыку ўрад ФРГ не мае намеру, заявіў у сераду, 26 траўня, афіцыйны прадстаўнік канцлера Штэфен Зайберт (Steffen Seibert). *"Нямецкі ўрад застаецца пры сваім меркаванні, што гэта канфлікт* (у Данбасе. - Рэд.) *паміж Расіяй і Украінай, які патрабуе палітычнага рашэння, перадумовай якога з'яўляецца ўсёабдымная рэалізацыя менскіх дамоўленасцяў"*, - заявіў Зайберт і нагадаў, што Германія аказвае Украіне дыпламатычную, палітычную і эканамічную дапамогу. *"Што ж датычыцца экспарту ўзбраенняў, то мы праводзім абмежавальную і адказную палітыку, - дадаў Зайберт, - і не выдаём дазволаў на пастаўкі ва Украіну баявой зброі"*.

Па дадзеных Мінэканомікі ФРГ, якое выдае дазволы на экспарт любых відаў зброі, у 2019 годзе ва Украіну былі прададзены толькі паляўнічыя і спартовыя стрэльбы і пісталеты на агульную суму 2,1 млн еўра. Гэта склала 0,03% ад агульных паставак нямецкіх узбраенняў за мяжу, сума якіх у тым годзе перавысіла 8 млрд еўра.

Дакладныя лічбы за 2020 год будуць паказаны ў справаздачы, якую ўрад мае намер прадставіць у чэрвені. Але, адказваючы на запыт DW, Мінэканомікі, ужо паведаміла, што, па папярэдніх дадзеных, у 2020 годзе яно выдала ў агульнай суме 63 ліцэнзіі на продаж ва Украіну паляўнічай і спартовай зброі на суму 3,5 млн еўра.

Нямецкі падыход да экспарту ўзбраенняў не задавальняе амбасадара Украіны ў Германіі Андрэя Мельніка. У інтэрв'ю агенцтву dpa ён вітаў прапанова Роберта Хабека і раскрытыкаваў палітыку ўрада Ангелы Меркель (Angela Merkel), заявіўшы, што ён паводзіць сябе як "маральны апостал".

*"Пуцін мае намер сцерці Украіну з карты і знішчыць украінскую дзяржаву, -* цытуе амбасадара dpa. - *Таму мы, украінцы, не можам зразумець стрыманасць урада Германіі ў тым, што тычыцца паставак Украіне нямецкіх абарончых узбраенняў"*.

Мельнік заклікаў афіцыйны Берлін адмовіцца ад такой "дзіўнай пазіцыі" і ставіцца да Украіны гэтак жа, як да Ізраіля. *"Кіеў мае такое ж права на самаабарону, як і Ізраіль, які раз-пораз падвяргаецца нападам і пагрозам. Адначасова менавіта Германія нясе такую ж гістарычную адказнасць за права Украіны на існаванне, як перад дзяржавай Ізраіль"*, - растлумачыў амбасадар, маючы на ўвазе мільёны ўкраінцаў, загінулых у вайне з нацысцкай Германіяй.

Для Ізраіля і сапраўды дзейнічае выключэнне са строгіх нямецкіх правіл экспарту ўзбраенняў. Матывуючы гістарычнай адказнасцю за Халакост, Германія прадае Ізраілю падводныя лодкі, баявыя караблі і іншую ваенную тэхніку.

У сваёй крытыцы нямецкай экспартнай палітыкі ўкраінскі амбасадар не зусім самотны. З ім згодзен дырэктар Цэнтра ліберальнай сучаснасці (Zentrum Liberale Moderne) Ральф Фюкс (Ralf Fucks), які называе тэзу пра адмову ад экспарту ўзбраенняў у крызісныя рэгіёны "апалітычнай адгаворкай".

Такі "псеўданейтралітэт", па яго перакананні, стварае перавагу для агрэсара.

- А ахвяры агрэсіі тым самым адмаўляюць у праве сябе абараняць. Пастаўкі ва Украіну сістэм ППА, процітанкавых узбраенняў і выведвальнай тэхнікі павялічылі б для Крамля парог нападу, - заявіў Фюкс. - Гэта завецца стрымліваннем.

***Паводле СМІ.***





*Зоф'я Кавалеўская*

# Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Гаворачы пра Геншаля, мы трошкі аддаліліся ад тэмы. Вяртаемся да падзей і занатоўваем, што адразу пасля прызначэння Геншаля, Цэнтральны варшаўскі камітэт прыслаў у Вільню, таксама з намінацыяй на кіраўніка руху Лідскага павета, маладога 21-гадовага Вітольда Гажыца. Ён быў сынам Юр'я Гажыца, маршалка шляхты Брэст-Літоўскага павета і Канстанцыі з Якубоўскіх.

Пасля заканчэння школы вучыўся ў Пецярбургу, адкуль пераехаў у Парыж, дзе вучыўся ў Сарбоне. Ніякай іншай кваліфікацыі не меў. Даручэнне такога адказнага становішча недасведчанаму і блізка незнаёмага з Вільняй маладзёну, занепакоіла Віленскі аддзел. Аднак, зважаючы на прызначэнне ад Цэнтральнага камітэта, Гажыца пакінулі.

Засцярогі Віленскага аддзела не былі марнымі. Гажыца хутка арыштавалі. Падчас судовага следства ён выдаў некалькі імён. Быў высланы этапам у Расію і там памёр ад тыфу.

Віленскі аддзел Народнага ўрада надалей заставаўся перад выбарам кіраўніка ўзброеных сіл Лідскага павета. Мы амаль не мелі людзей з досведам ваеннай навукі. Іх належала шукаць сярод дэзерціраў ці звольненых афіцэраў. Нарэшце выбар выпаў на Уладзіслава Навіцкага, экс-вайскоўца. Людвік Нарбут прызначаўся толькі кіраўніком часткі павета. Аднак хутка справы змяніліся па невядомай нам прычыне.

Мажліва, узяўшы пад увагу веданне Людвікам Нарбутам тактыкі партызанскай вайны, аддзел віленскага Народнага ўрада прызначыў яго кіраўніком узброеных сіл усяго Лідскага павета. Уладзіслаў Навіцкі заставаўся яго ад'ютантам. Сваё прызначэнне Людвік прыняў з радасцю і гонарам за павагу братоў, бо яму было прыемна, што яго лічылі выпрабаваным чалавекам і сапраўдным афіцэрам, загартаваным у партызанскіх баях на Каўказе.

Зашумелі лідскія лясы і пушчы вітальным шумам. Ён глядзеў на іх з любоўю і надзеяй. Яны павінны былі замяніць яму горы і скалы Каўказа. У іх гушчары ўжо бачыў цвердзі, у непранікальных ценях - месцы засады.

З галавой поўнай планаў Людвік пачаў рыхтавацца да выправы.

У Шаўрах маці зноў хвалявалася за свайго каханага сына, якога нядаўна знайшла і зноўку магла страціць. Аднак найперш яна з'ўлялася грамадзянкай і толькі потым - маці, а таму была гатовая на ахвяру дзеля краіны.

Цывільным кіраўніком Віленскім аддзелам Народнага ўрада ў Ашмянскім павеце быў прызначаны Цэзары Нарбут, сын Казіміра і Юстыны з Мікульскіх, сваяк Нарбутаў з Шаўроў, які меў прыналежнасць да роду жмудскіх Нарбутаў. Пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце Цэзары быў прыняты ў арганізацыю і арыштаваны напрыканцы 1863 года. Асуджаны на выгнанне і быў высланы ўглыб Пензенскай губерні. Па вяртанні на радзіму жыў у Мітаве, дзе і памёр. Яго сямейны маёнтак Юстыніянаў быў канфіскаваны, атрымаў яго генерал Рэненкампф.

Кіраўніком узброеных сіл у Ашмянскім павеце быў прызначаны Мінейка а потым Чаховіч. І ўрэшце аддзел віленскага Народнага ўрада прыслаў Аляксандра Парадоўскага - адважнага камандзіра, знанага пад псеўданімам "Астрога".

**РАЗДЗЕЛ V**

*Сходы. Сесіі. Дэбаты. Вяртанне моладзі. Людвік Нарбут. План паўстання. Дзень 1 лютага. Першы рух на Літве. Маніфест. Ксёндз Гінтаўт. Ахвяры маніфеста і яго эфект. Сяляне ў Забалаці. Нястача зброі. Сімпатыя народа. Барталамей Кандрат. Высылка цэлых сямей на Сібір.*

Ужо чутны быў шолах у каралеўстве, але Літва яшчэ не зрушылася. Яна збірала і арганізоўвала свае сілы. Пачатак бунту быў прызначаны на 1 красавіка. Між тым праходзілі з'езды і нарады як чальцоў арганізацыі, так і добраахвотнікаў.

Такія сходы часта адбываліся ў Бальтазара Калясінскага, які пераважна жыў у Лідзе. У гэтых сходах прымалі ўдзел Геншаль, Тышкевіч з Жырмун, Станіслаў Путкамер і многія іншыя. Падчас дэбатаў паранейшаму паднімалася пытанне аб мажлівым удзеле ў паўстанні простых людзей.

Адусюль з вышэйшых вучэльняў вярталася да краю акадэмічная моладзь. Назапашвалася зброя і амуніцыя, вербаваліся добраахвотнікі, якіх звязвала прысяга.

Людвік Нарбут прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх гэтых сходах як галоўны кіраўнік раёна. У той час Лідскі павет быў падзелены на парафіяльныя раёны, якія павінны былі паўстаць адначасова. Але калі раёны яшчэ не падавалі знакаў жыцця, дык Нарбут ужо быў гатовы да барацьбы. Атрымаўшы намінацыю кіраўніка ўзброеных сіл Лідскага павета, Людвік атрымаў шаблю, і, пацалаваўшы яе, прысягнуў ваяваць да апошняга дыхання.

Ён першым актывізаваў паўстанчы рух на Літве - 1-га лютага выйшаў з дому і распачаў сваю партызанскую дзейнасць.

Здавалася, прырода сама заахвочвала да дачаснага выбуху.

Цёплая бясснежная зіма 1863 года палегчыла ўмовы барацьбы, месцам правядзення якой павінны былі стаць пушчы і лясы Літвы. Нарбут хацеў пачаць раптоўна, не даць ворагу часу для сцягвання большай сілы. З мапай у руках ён акрэсліў сабе пэўны план дзеяння.

Неабсяжныя лясныя абшары, злучаныя паміж сабой пушчанскія ваколіцы Радуні, Гародна і іншыя, сталі адпаведным полем партызанскай барацьбы. Ён мог патаемна выкрушыць да Вільні або рушыць у Гарадзенскую губерню. І, не чакаючы больш агульных адозваў, Нарбут 1-га лютага пакінуў Шаўры.

Акрамя яго маладога брата Баляслава, які ўзяўся за зброю нават не закончыўшы школу, Людвік вёў за сабой невялікую жменьку людзей: радца Душман і некалькі чалавек з вёскі і маёнтка. Адзетыя яны былі ў шэрыя сялянскія кажухі "світкі", перакінутыя праз плячо палатняныя торбы для прыпасаў і ежы. Пакуль не ўзняліся іншыя раёны, Нарбут хацеў выкарыстаць час для муштры сваёй жменькі людзей у ваеннай навуцы, прывучыць іх да дысцыпліны, каб потым мець здольных жаўнераў.

Пра апошні дзень Людвіка ў Шаўрах расказвае яго сястра Тэадора Манчунская: *"Усё ўжо было гатова. Людвік павінен быў пайсці з дому вечарам ... аб гэтым ведала ўся сям'я, усіх гэта турбавала, але ўсе хавалі пачуцці, не мажліва было паводзіць сябе па-іншаму, немагчыма, каб гэты дзень чымсьці адрозніваўся ад іншых. Усё павінна было ісці сваім ходам, як і звычайна, а тым больш сняданак, абед ... хоць кавалак не лез у горла. Уся сям'я сядзела пры стале да самай вячэры ... трэба было пільнаваць словы, утойваць біццё сэрцаў. Каб хутчэй прайшоў бясконца доўгі дзень, чыталі ўголас "Карлінскага" Сыракомлі"*[24].

Тэадора, перапоўненая пачуццямі, зрывалася да фартэпіяна і, нервова наносячы ўдары па клавішах, грала народныя гімны. Час ішоў і нарэшце надышла хвіліна расставання.

Людвік захоўваў абсалютны спакой, не праяўляў сваіх пачуццяў нават каля маладой жонкі, якую вельмі кахаў. Холадна даваў розныя распараджэнні для сястры Тэадоры, яго даверанай асобы і галоўнай памочніцы ў розных пытаннях.

У рукі Тэадоры аддаў ён Маніфест Народнага ўрада і наказваў перадаць яго заўтра пробашчу касцёла ў Начы для чытання перад вернікамі з амбона.

Хаваючы паперу, сястра жартаўліва спытала:

- А калі б пра мяне дазналіся, шкадаваў бы мяне?

- Не час думаць пра ружы, калі гараць лясы, - адказаў вытрымана Людвік.

Развітанне было кароткім. Людвік на хвіліну прыціснуўся да грудзей бацькі, уже вельмі старога.

- Вазьміце Вільню, - шапнуў узрушаны стары, - і мяне - туды ... да артылерыі … я - усё ж-такі інжынер!

Даўжэй Людвік затрымаўся ў абдымках маці, жонкі і сястры. Тэадора выбегла за ім да самай брамы, дзе ўжо стаяў на варце раней паставлены Людвікам малодшы брат Баляслаў з ружжом.

У вечаровых ценях замаячылі шэрыя світкі братоў і зніклі ў цемры.

Назаўтра 2-га лютага, у дзень Грамнічнай Маці Божай, Тэадора Манчунская выбралася ў Начу на сустрэчу з пробашчам Гінтаўтам. Яна везла з сабой Маніфест Народнага ўрада і распараджэнне кіраўніка. Ксёндз збляднеў, хвіліну вагаўся, нарэшце прыняў Маніфест. Няпэўным крокам падняўся на амбон і пачаў чытаць. Чытаў кепска, невыразна, а калі скончыў, дадаў: "Назімаў". Хітры жмудзін гэтак сябе ўратаваў. Калі потым распачалося следства і пераслед тых, хто зачытаў людзям з амбона Маніфест, тутэйшыя сяляне прызналіся пад прысягай, што іх пробашч чытаў ім з амбона нейкае распараджэнне генерал-губернатара Назімава. Ксёндз Гінтаўт застаўся не пакараны, у той час як іншыя ксяндзы з Лідскага павета за зачытванне Маніфеста былі асуджаны на смерць загадам Мураўёва. Так загінулі: ксёндз Ішора - пробашч з Жалудка, расстраляны ў Вільні, ксёндз Фалькоўскі - пробашч з Ішчалны (стары паважнага веку, расстраляны ў Лідзе), ксёндз Зямацкі - пробашч з Ваверкі, расстраляны ў Вільні на Лукішках адначасова з маладым Альбертам Лясковічам, землеўладальнікам з Кір'янаўцаў. Як данеслі чуткі, Лясковіч быў арыштаваны за тое, што ў Наваельні папракаў ксяндза за адмову прачытаць Маніфест. Пра Альберта Лясковіча падрабязней пагаворым пазней.

Іншыя ксяндзы, над якімі таксама вісела "злачынства" чытання Маніфеста з амбона, цудам пазбеглі смяротнай кары. Адзін з іх: ксёндз Гарбачэўскі зачытаў Маніфест ужо прыгатаваўшы загадзя лясны кафтан, і проста з амбона пайшоў у лес. Сабраўшы некалькіх таварышаў, далучыўся да партыі Нарбута. Браў удзел ва ўсіх сутычках, а пасля смерці кіраўніка змог перайсці мяжу і ўратавацца.

Не менш шчасліва ўдалося выкруціцца ад адказнасці маладому землеўладальніку Станіславу Калясінскаму, стрыечнаму брату Бальтазара. Яму было даручана перадаць Маніфест для агалошвання пробашчам некалькіх парафій, аднак па дарозе Калясінскі сам зачытваў Маніфест па вёсках.

Уплыў Бальтазара Калясінскага на сялян, а таксама намаганні павятовага маршалка Стэфана Буткевіча, з якім Станіслаў меў сваяцтва па крыві, дапамаглі яму ўратавацца. Маршалак Стэфан Буткевіч спецыяльна арганізаваў паляванне для ваеннага начальніка Алхазава, дзе сярод паляўнічых быў і Станіслаў. Пасля палявання Алхазаў застаўся ў захапленні ад паляўнічых і разумовых здольнасцей Станіслава Калясінскага, хаця і падазраваў яго ў нелегальнай дзейнасці. Станіслаў заслужыў прыязнь Алхазава "на вякі вечныя" і перапслед спыніўся.

Рэха Маніфеста Народнага ўрада пранеслася ў Лідскім павеце. У некаторых мясцовасцях узрушыў ён зацвярдзелыя сялянскія душы. Можа абяцанне адмены чыншу і ў перспектыве бясплатнае атрыманне ва ўласнасць зямлі расчулілі сялян, хочацца аднак верыць, што прычынай былі іншыя, больш шляхетныя памкненні, а менавіта: памяць пра даўнія часы і вызнанне хрысціянскай веры.

У Забалацкай парафіі пасля праслухвання Маніфеста, зачытанага ксяндзом Зарэцкім, і гарачай прамовы капітана Х каля 300 сялян былі гатовы павялічыць кадры паўстанцаў. Стаялі абозам пад касцёлам тры дні і чакалі зброю, якой не было, не хапала і энергічнай рукі, якая магла б прывесці новыя сілы ў шэрагі паўстанцаў.

Сімпатыя народа напачатку была на нашым баку. Падчас сваёй кампаніі Нарбут гэта адчуваў. Сяляне апекавалі яго аддзел, дапамагалі з ежай, давалі знаць пра рух непрыяцеля, часамі аддавалі падводы. Сялянскія жанчыны мылі паўстанцам адзенне.

Жыхары вёскі Паддубна, што недалёка ад Начы, аказвалі для аддзела Нарбута вялікія паслугі. Быў паміж імі і ўрадавы ляснік Барталамей Кандрат. У сваёй леснічоўцы на стайні, як быццам для догляду лесу, заўсёды трымаў запрэжанага каня. Насамрэч рабіў гэта, каб хутка папярэдзіць Нарбута аб руху непрыяцельскага войска. Хаця сам Кандрат непасрэдна ўдзелу ў паўстанні не прымаў, але з ўсяе душы служыў яму. Выдаў яго сусед з вёскі - Мацкевіч. Указаў маскалям на запрэжанага ў стайні каня, правёў іх па слядах колаў ад воза, на якім паўстанцам вазілі харчаванне. Кандрата арыштавалі, а вёску Паддубна аддалі на рабунак маскальскім жаўнерам. Выратавалі яе стрэлы, якія сталі чутны з боку вёскі Кавалькі. Гэта пачынаўся бой ў Лакштуцянскім лесе. Рота жаўнераў паспяшала на дапамогу сваім, і, дзякуючы гэтаму, Паддубна пазбегла лёсу вёскі Зубрава.

*(Праця у наступным нумары.)*

---

* Zofja Kowalewska. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. Зоф'я Кавалеўская. Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута. Вільня. 1934 г. Перадрук з "Дзённіка Віленскага". Пераклад і каментары Галіны Лаўрэш. Рэдагаванне і каментары Леаніда Лаўрэша.

[24] Маецца на ўвазе гістарычная драма У. Сыракомлі "Каспар Карлінскі" ("Kasper Karlinski"). - Л. Л.

# Узарвалі будынак былой Купалаўскай бібліятэкі

На днях у вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна ўзарвалі безгаспадарны двухпавярховы будынак. У ім шмат гадоў знаходзілася знакамітая бібліятэка імя Янкі Купалы. У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла статус бібліятэкі-музея імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё 80-годдзе. Гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008 годзе яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фотаздымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны.






Усе акупацыі і войны перажыла слаўная Вялікакракоцкая Купалаўская бібліятэка, а вось сённяшні час перажыць не змагла. Шкада…

Вёску Вялікая Кракотка пісьменнік Уладзімір Караткевіч назваў самай прыгожай вёскай на свеце. Але вёска не толькі прыгожая, але і знакамітая. Знакамітая Вялікая Кракотка найперш была тым, што тут яшчэ ў 1927 годзе пры гуртку Таварыства беларускай школы вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя беларускага песняра. Вялікую дапамогу ў дзейнасці бібліятэкі аказвала жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (цётка Уладзя). Яна вельмі любіла Кракоцкую бібліятэку імя Янкі Купалы і ўсіх тых людзей, якія жылі побач. З Менска яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай пасляваенны загадчык бібліятэкі Аляксандр Жыткевіч (у 1999 годзе яго не стала) заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Уладзіслава Францаўна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы. Дзякуючы цётцы Уладзі, для бібліятэкі прысылалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя вядомыя пісьменнікі. У 1957 годзе бібліятэку наведалі Пятрусь Броўка, Янка Брыль і Іван Шамякін. Пятрусь Броўка падараваў бібліятэцы свой двухтомнік. На першым томе ён напісаў: *"Бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. З вялікай пашанай да яе прыхільнікаў і актыўных чытачоў. Пятрусь Броўка. 29.5.1957 г."*. Свае аўтографы бібліятэцы тады пакінулі Янка Брыль і Іван Шамякін. У 1961 годзе свой двухтомнік з аўтографам прыслаў з Менска Янка Брыль: *"Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы - з зямляцкай павагай і найлепшымі пажаданнямі Янка Брыль. Мінск, 6.01.61 г."*. На святкаванне 30-годдзя бібліятэкі ў 1957 годзе ў Вялікую Кракотку прыехалі з Менска Максім Лужанін, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, якія з сабою ў дар прывезлі каля 50 кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. *"Кракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў дзень яе слаўнага трыццацігоддзя ад аўтара Пятра Прыходзькі"*, - так напісаў на сваёй кнізе "Салдаты міру" паэт-франтавік. У 1972 годзе Вялікакракоцкая бібліятэка адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У вялікім літаратурным вечары, які праходзіў у Вялікай Кракотцы, прымалі ўдзел Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Янка Саламевіч і іншыя літаратары. Як памяць пра сустрэчу захоўвала бібліятэка іх кнігі з аўтографамі. Пакінуў аўтограф Сяргей Грахоўскі на кнізе "Тры вымярэнні": "*Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. Жадаю жыць у шчасці, любіць і шанаваць ніву, засеяную Купалавай шчодрай рукою"*.Захоўваліся ў бібліятэцы і кнігі з аўтографамі Алеся Якімовіча, Міколы Аўрамчыка, Леаніда Прокшы, Івана Навуменкі, Сяргея Панізніка і многіх іншых нашых творцаў. Але самая каштоўная рэліквія, якую захоўвала бібліятэка, - гэта аўтограф Якуба Коласа. У 1952 годзе з Менска ён прыслаў бібліятэцы сваю кнігу "Адшчапенец", выдадзеную ў 1950 годзе. На ёй чарнільнай ручкаю напісана: *"Бібліятэцы імя Янкі Купалы вёскі Вялікая Кракотка. Якуб Колас. 2.8.1952 г."*. Цяпер кніга з аўтографам захоўваецца ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа. Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы Слонімскага раёна за свой 80-гадовы шлях шмат разоў адзначалася ўзнагародамі. У 1960 і 1967 гадах гэтая ўстанова культуры за шматгадовую плённую працу была ўзнагароджана Ганаровымі граматамі Міністэрства культуры СССР. Дзве ганаровыя граматы і два дыпломы атрымала бібліятэка ад Міністэрства культуры і Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Цяпер ад бібліятэкі не засталося нічога, хіба што аўтографы на кнігах пісьменнікаў, фотаздымкі і ўспаміны тых, хто там бываў.



*Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч у вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне, 1950-я гады.*




*Пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юліянаўна Раманоўская віншуе загадчыка Купалаўскай бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка Аляксандра Жыткевіча з 40-годдзем бібліятэкі, 1967 г.*



*Загадчык бібліятэкі Аляксандр Жыткевіч і паэт Сяргей Панізьнік*




*Чытачы Купалаўскай бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна, 1965 г.*

**Барыс Баль,**
**Беларускае Радыё Рацыя.**
***Фота аўтара і з архіва аўтара.***

# Трохі настальгіі па нядзейсненых марах

## (50 гадоў назад я прыехаў у Адэсу, каб стаць мараком)

Сёння ўжо не магу ўспомніць, што паўплывала на маю свядомасць, але ўжо ў малодшых класах у мяне з'явілася мара стаць мараком. У далейшым, захапляючыся мастацкай літаратурай "пра марскую рамантыку", я канчаткова прыняў рашэнне паступаць у марскую навучальную ўстанову. Выбар упаў на Адэскі інстытут інжынераў марскога флоту.







І вось я ў Адэсе. Абітурыентаў, якія прыбылі з усіх канцоў Савецкага Саюза, пасля праходжання медкамісіі, адміністрацыя інстытута, па-ваеннаму, размеркавала пазвязна і пасяліла ў інстытуцкай спартыўнай зале. Раніцай і ўвечары, у абавязковым парадку, праводзіліся праверкі абітурыентаў, але на працягу дня мы былі вольныя. Гэты час адводзіўся на падрыхтоўку і правядзенне іспытаў.

У той год у Адэсе было вельмі гарачае надвор'е. У памяшканні спартыўнай залы к ночы ўсталёўвалася страшная духата. Невялікая група абітурыентаў, сярод якіх быў і я, узяўшы свае матрацы, перабралася праз вакно на дах прыбудовы да будынка і ўлегліся там спаць. Гэтыя дзіўныя адчуванні, засынаць, гледзячы на паўднёвае зорнае неба, помніцца і цяпер.

У першы ж вольны дзень я, разам з іншымі "марскімі рамантыкамі", сабраўся адпачыць на моры. Каб даведацца, як даехаць да пляжу, вырашылі запытацца ў мясцовага "па выглядзе" жыхара. І адразу пазнаёміліся з цудоўным адэскім гумарам. На наша пытанне: *"Як нам з гэтага месца патрапіць на цэнтральны пляж?"* Быў пачуты адказ: *"Молодой человек - Вы шо, с мозгами поссорились? С этого места Вы не уедите. Лучше пройдите на остановку, и трамвай таки довезет до Аркадии".* Маналог адэсіта прагучаў на своеасаблівай адэскай гаворцы, пры гэтым у суразмоўцы быў выгляд, які нагадвае нешта накшталт: *"Я Вас умоляю, было бы, о чём говорить!".*

За амаль месяц, што я правёў у Адэсе, падобных каларытных размоў давялося пачуць не мала. Тым больш, што іншагароднія абітурыенты рэгулярна абменьваліся падобнай інфармацыяй. Паўднёвая прырода, мора, унікальная гарадская архітэктура і, галоўнае, самі адэсіты захапілі мяне. Увесь вольны час ішоў не на падрыхтоўку да іспытаў, а на штодзённае вывучэнне горада. Як жыхара маленькага сухапутнага гарадка, Адэса адразу ўразіла мяне ўсім, чым можа здзівіць правінцыйнага жыхара вялікі паўднёвы партовы горад. Я закахаўся ў гэты горад з першага погляду. У першую чаргу за непаўторны каларыт і атмасферу лёгкасці і вясёлосці. За тую ўнікальную харызму, якая ёсць толькі там. За гасціннасць і гумар, з якім я пастаянна сутыкаўся за ўвесь час знаходжання ў гэтым горадзе.

Час праляцеў хутка, вынік экзаменаў быў прадказальны - я быў у спісе абітурыентаў, каму неабходна было забраць дакументы. Мая мара, прыехаць у Шклоў і каб усе ўбачылі мяне ў марской форме, у першую чаргу аднакласніцы, праваліліся. Прыйшлося "спускацца на зямлю".

Праз шмат гадоў я зноў быў у гэтым цудоўным горадзе. Горад кіпеў "перабудовачным" часам, але асаблівы адэскі дух заставаўся. Былы інстытут рэарганізаваны ў Адэскую марскую акадэмію. Мне прыемна было глядзець на юнакоў ў марской форме і, вядома, я трохі сумаваў.

Як раней, так і цяпер, шмат хто хоча стаць адэсітам і адэсіткай, але Адэса ўсіх ахвочых прыняць не можа. Гэта аб'ектыўны працэс. Як і тое, што я не прайшоў па конкурсе ў марскі інстытут. Сярод абітурыентаў было шмат хлопцаў якія прайшлі службу ў флоце, а я ж толькі ў Адэсе ўпершыню ўбачыў мора. Дзіцячая мара не спраўдзілася, але для мяне гэта быў першы жыццёвы ўрок. Ён вучыў аб'ектыўна ацэньваць свае магчымасці і ставіць перад сабой жыццёвыя задачы.

Менавіта ў Адэсе, адзін з абітурыентаў, даведаўшыся, што я з Беларусі, спытаў: "А ты ўмееш гаварыць па-беларуску?" Гэтае пытанне тады мяне не натда ўсхвалявала. І толькі з гадамі я задумаўся: "Так, Адэса мае свой "самастойный твар", які не змяняецца многія гады. А якімі адметнымі асаблівасцямі выдзяляемся мы, беларусы?". Прыязджае, напрыклад, госць з-за мяжы ў Магілёў ці іншы беларускі горад, і што ж ён бачыць альбо чуе менавіта з беларускага нацыянальнага каларыту? Рэдкая шыльда на беларускай мове. Колькі не будзе ўслухоўвацца, ён не пачуе беларускай мовы сярод мінакоў. І як вынік, большасць замежнікаў не дыферэнцуюць рускую і беларускую культуры.

Каб "закахацца" ў любы беларускі горад, на мой погляд, трэба, у першую чаргу, неабходна каб яго палюбілі самі жыхары. І ў аснове гэтага "кахання" заўсёды будзе менавіта беларуская культура і традыцыі. Менавіта ў беларускай культуры ўвасоблены самабытныя міфалагічныя, рэлігійныя, мастацкія, маральныя ўяўленні нашага народа. Яна мае свой стрыжань, уласную аснову, нягледзячы на тое, што доўгі час фармавалася ў непасрэднай блізкасці ад іншых культурных цэнтраў.

Ведьмі хочацца спадзявацца, што хто-небудзь таксама задумаецца і "пакахае" сваё месца жыхарства. Таму, што кожны населены пункт мае свой, менавіта нацыянальны каларыт і самабытнасць.

*Алесь Грудзіна,*
*фота з сямейнага архіва.*

# Літаратурна-музычная сустрэча з беларускай пісьменніцай і паэткай, аўтарам-выканаўцай песень Таццянай Дашкевіч



Фестываль праваслаўнай культуры "Кладзезь" штогод усіх жыхароў і гасцей горада Ліды запрашае на выставу-кірмаш вырабаў манастырскіх майстэрняў, лялечныя спектаклі тэатра "Батлейка", разнастайныя сустрэчы ў рамках духоўна-асветніцкіх праграм. Адна з такіх літаратурна-музычных сустрэч прайшла 23 траўня ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4", госцем якой была беларуская пісьменніца і паэтка, аўтар-выканаўца песень Таццяна Мікалаеўна Дашкевіч. Вядома яна, у першую чаргу, як аўтар песень, выконваных ёю пад гітару, бо яе вершы адрозніваюцца натуральнасцю інтанацыі, чуласцю, лірычнай меладыкай. Многія чыталі дзецям яе добрыя і светлыя кнігі, але не ўсе ведаюць, што пяру беларускай пісьменніцы належаць і біяграфічныя творы, і нават Жыція святых.





На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі Лідскай епархіі, члены ГА БелТІЗ па Лідскім раёне, а таксама чытачы бібліятэкі, жыхары і госці г. Ліды. У ходзе мерапрыемства Таццяна Мікалаеўна выконвала аўтарскія песні пад гітару, чытала вершаваныя творы. Асаблівая ўвага была нададзена кнізе "Дзеці на вайне", якую сама аўтарка лічыць галоўным літаратурным праектам яе жыцця. Увазе прысутных гасцей была прадстаўлена слайд-прэзэнтацыя аб дзецях вайны, напоўненая іх успамінамі аб тых страшных днях іх дзяцінства. Па словах Таццяны Дашкевіч, у гэтай кнізе яна вачыма кожнага дзіцяці хацела паказаць трагедыю вайны.

*Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынга ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"*
**Кацярына Сандакова.**

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by, kajety@list.ru

***Рэдакцыйная калегія:***
Эдуард Акулін, Алена Анісім, Алеся Аўласевіч, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 31.05.2021 г. у 17.00. Замова № 1350.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,88 руб., 3 мес.- 8,64 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.